# БЮЛЕТЭНЬ

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканск. Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 9 (44) | 5-га ліпеня 1930 году | № 9 (44)


## ЗЬМЕСТ



## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму БРК саюзу сельгаслесрабочых аб папярэдніх выніках арганізацыі сталых кадраў рабочых на лесанарыхтоўках і сплаве.

1. Адзначыць, што пастанова прэзыдыуму БРК ад 29/III-г. г. аб арганізацыі сталых кадраў рабочых на лесанарыхтоўках і сплаве на мясцох ня выкананы і вокал гэтага пытаньня ня была складзена грамадзкая думка, у выніку чаго замест вызначаных да арганізацій 8 тысяч чалавек сталых рабочых працуе усяго 800.

2. Выходзячы з гэтага, прэзыдыум БРК лічыць неабходным, каб фактычнае ажыцьцяўленьне пастановы прэзыдыуму аб стварэньні сталых кадраў рабочых пераключыць на вышейшаю ступень г. зн. стварэньня кваліфікаваных сталых рабочых для працы па мэханізацыі лесанарыхтовак, лесавывазцы, лесасплаву і кваліфікаванай распрацоўкі экспартнай прадукцыі (трактарыстыя, матарыстыя, шпалацесы, клепачнікі і г. д.) і забясьпечыць іх адпаведнымі матар'яльнымі і культурнымі ўмовамі, аб чым даручыць Лясному сэктару, Сэктару Кадраў і Лесбелу ў дэкадны тэрмін распрацаваць гадавы плян арганізацыі курсаў і інш. форм перакваліфікацыі і кваліфікацыі у больш буйных лясных пунктах, дзе маецца магчымасьць мэханізацыі лясных распрацовак і вывазкі, а таксама на складах па перапрацоўцы драўніны, забясьпечыў гэтыя курсы неабходнымі учэбнымі прыладамі, інструмэнтамі, памяшканьнем, грамадзкім харчаваньнем і г. д.

3. Адначасова прапанаваць рабачкомам лесанарыхтовак, раенным і акруговым інструктарам Лесбелу і яго органам выканаць пастанову, прэзыдыуму ад 29/III г. г. і фарсіраваць арганізацыю сталых кадраў рабочых на лясных распрацоўках, сплаве складах, прыстанях. пагрузачна—разгрузачных пунктах, для чаго правесьці наступыя мерапрыёмствы:

а) На аугльных сходах вучастку, лесарубаў, Пленумах РВК, сельсаветаў, шырока папулярызаваць значэньня утварэньня сталых кадраў рабачых на лесанарыхтоўках і сплаве, як стварэньне пралетарскае ядро у ляснарыхтоўках і аб умовах працы гэтых сталых рабочых, прадугледжаных калдагаворам) грамадзкае харчаваньне, спэцвопратка, поўнае страхаваньне, водпускі і г. д.) і дабіцца практычнай і актыўнай дапамогі ўсіх арганізацый на вёсцы ў стварэньні гэтых кадраў.

б) Узмацніць саюзнае абслугоўваньне сярод арганізаваных сталых рабочых, разгорнуў паміж іх сацспаборніцтва і ударніцтва і прыцягнуў іх да актыўнай работы вытворчых нарад і ахапіць культурным абслугоўваньнем (радые, газэты, кіно) і дабіцца такога становішча, каб усе сталыя кадры рабочых на лесанарыхтоўках прымалі самы актыўны удзел у штодзённай саюзнай рабоце.

4. Адзначаючы зусім недапушчальныя адносіны з боку Мазырскага, Барысаўскага раёнаў Лесбела да выкананьня калумовы (Гарадзячыцы, Дулеба да гэтага часу не пабудованы баракі і лазьні) даручыць лясному сэктару падабраць увесь матар'ял і перадаць судовым органам да прыцягненьня да адказнасьці. Адначасова даручыць Лесбелу катэгарычна прапанаваць усім раёнам, і вучасткам скласьці адпаведныя ўмовы для працы сталых рабочых, як—та: абясьпечаньне кватэрамі, выдача спэцвопраткі, арганізацыя грамадзкага харчаваньня і г. д.

5. Давесьці да ведама ЦСПСБ і Наркампрацы аб маючыхся фактах канкурэнцыі ў раёнах паміж асобнымі гаспадарчымі органамі (Дорбуд, Лесбел і інш.), што зрывае урэгуляваньне зарплаты на лесазагатаўках, прасіць прыняць адпаведныя меры. Адначасова лясному сэктару БРК і Лесбелу урэгуляваць стаўкі для сталых кадраў рабочых.

6. Адзначаючы, зусім бязьдзейнасьць вярбовачнага апарату Наркампрацы ў арганізацыі сталых кадраў рабочых і адсутнасьці нагляду з боку інспэкцыі Наркампрацы за выкананьнем дагавару па ахове працы, прасіць Наркампрацы:

а) Даць паказаньне па сваей лініі вярбоўшчыкам аб удзелу і садзейнічаньні ў стварэньні сталых кадраў рабочых.

б) Узмацніць нагляд інспэкцыі працы на лесанарыхтоўках і сплаве праз сыстэматычныя выезды і праверкі становішча аховы працы.

7. Лічыць неабходным у працягу ліпеня месяца ў акругах павесьці вытворчыя нарады вучастку Лесбелу і рабачкому для прапрацоўкі практычных мерапрыемств выкананьня гэтай пастановы.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму БРК саюзу сельгаслесрабочых па дакладу начсплава і лесбелу аб ходзе сплава.

Прэзыдыум канстатуе, што становішча са сплавам яшчэ зьяўляецца напружаным і маецца пагроза зрыву выкананьня заданьняў па сплаву. На 10/VI пушчана ў сплаў 1.520.186 к/м лесаматарялаў, альбо 67, 98% і дроў 168.069 к/м, альбо 10,56% к/м. прыбыла да канчатковых пунктаў 802.669 к/м, альбо 35,09% і дроў 163.065 к/м, альбо 25%

Органы наркомпрацы ўсе яшчэ слаба разгарнулі працу па забесьпячэньні сплаву рабсілай (усяго не хапае на 10/VII-7.000 рабочых).

З боку каапэрацыі недастаткова праведзена падрыхтоўчая работа па абслугоўваньні сплаўшчыкаў, асабліва па арганізацыі грамадскага харчаваньня (Чэрняўка, Струня, Слабада,), да гэтага часу не адчынены сталоўкі, маюцца выпадкі недастатковага завозу прадуктаў (Барысаўшчына).

Прэзыдыум адзначае, што саюзная работа на сплаве усё яшчэ пастаўлена слаба, няма канкрэтных вынікаў сацспаборніцтва і ўдарніцтва і недастаткова разгорнута культрна—масавая работа,

Выходзячы з гэтага прэзыдыум БРК, у мэтах забесьпячэньня 100% выкананьня пляну сплава, як вясеньняга, так і летняга, лічыць неабходным правесьці наступныя мерапрыемствы:

1) Н.К. працы прыняць рашучыя захады да поўнага забесьпячэньня сплава рабочай сілай, для чаго камандыраваць у акругі адказных працаўнікоў.

2) Начсплаву, Лесбелу і Наркамзему правесьці рашучыя мерапрыемствы па палепшаньню сплаўных шляхаў і мэханізацыі і рацыяналізацыі (сьпісак сплаўных пунктаў пры гэтым прыкладаецца) сплаву. Лесбелу і ў далейшым разгарнуць работу па прэміраваньню работнікаў выявіўшых сябе у рацыяналізацыі сплаву.

3) У мэтах пераходу да тэхнічнага нармаваньня працэсаў работы на сплаве, даручыць Лесбелу і Начсплаву з 15/VI устанавіць па шэрагу рэк хрономэтражны нагляд грунтоўных працэсаў сплаўных работ (ската, вязка). Рабачкомам саюзу прыняць удзел і садзейнічаць у правядзеньні хронамэтражу.

4) Адзначаючы вельмі дрэннае становішча ў забясьпечэньні рабочых на сплаве прадуктамі і арганізацыі грамдзкага харчаваньня на сплаве, даручыць Лесбелу, Начсплаву, Белкаапсаюзу ў 5-ці дзённы тэрмін дабіцца ўадпаведных органах у цэнтры водпуску для сплаву прадуктаў па устаноўленых у 2.890.000 чалавекадзён.

Адначасова прасіць ЦК саюзу патрымаць гэту заяўку і ўдзельнічаць па хутчэйшым водпуску прадуктаў для беларускага сплаву. Белкаапсаюзу праверыць на мясцох выкананьне дадзеных дырэктыў і за невыкананьне гэткіх, асабліва за вочкауціраецельства з боку каапэрацыйных органаў на мясцох, прыцягнуць да адказнасьці (Полацкі, прыстань Струня-Слабада, Барысаў, прыстань Чэрняўка), якія паведамілі, што сталоўкі адчынены, сапраўды-ж яны ня былі адчынены.

5) Адзначаючы, што дзяржпараходства ўзятыя на сябе абавязкі па перавозцы драўніны, у сувязі з перадачай ім Лесбелам усяго камэрцыйнага флёту, выконвае недапушчальна марудна, усяго перавезена 30% намечаных к перавозцы лесаматар'ялаў, прасіць ЭКАНА прыняць захады к прымушэньні Дзяржпараходства выканаць поўнасьцю плян перавозак да пачатку хлебных перавозак. Даручыць рабачкомам на мясцох вылучыць рабочыя брыгады па праверцы выкананьня пляну перавозак Дзяржпараходства.

6) Становішча з замежным сплавам патрабуе прыняцьця самых энэргічных мерапрыемстваў, а з чым даручыць Лесбелу дабіцца ў экспартлесе прыняцьця адпаведных мер. Адначасова камандыраваць члена прэзыдыуму БРК і прадстаўніка Лесбелу ў Полацкую акругу для урэгуляваньня пытаньня з замежным сплавам на месцы.

7) Саюзным арганізацыям па сплаве рашуча ўзмацніць работу і поўнасьцю правесьці ў жыцьцё пастанову Прэзыдыуму БРК ад 29/III, ставячы перад сабой асноўнай задачай 100% выкананьня сплаву, удзешаўленьня сабекаштоўнасьці, падняцьця вытворчасьці працы праз масавае разгортваньне сацспаборніцтва і ударніцтва. Регулярна прысылаць у БРК дэкадныя інфармацыі як па лесасплаву, так і па лесанарыхтоўках.

8) Давесьці да ведама ЦСПСБ, што саюзамі Дрэвапрацоўнікаў і мэдсанпрацы нічога нязроблена па абслугоўваньні сплаву, згодна дырэктыў УсеЦСПС і прасіць ЦСПСБ прапанаваць гэтым саюзам разгарнуць работу на мясцох на абслугоўваньні сплаўшчыкаў, маючы на увазе, што хутка сплаў скончыцца.

## СЬПІСАК

**сплаўных шляхоў, якія намечаны да палепшаньня.**

*1) Па Барысаўскім лесараёну.*

1. Рака Клева, 2. Клевішча, 3. Брусяга, 4. Дубела, 5. Сха, 6. Гайна, 7, Можа, 8. Поня, 9. Бярэзіна — на суму 75.000 рублёў.

*2) Па Чэрвеньскім лесраёну.*

1. Уса, 2. Волма, 3. Гата — на суму 12.000 рублёў.

*3) Па Мазырскім лесраёну.*

Рамонт млыновых водаспускаў для палепшаньня лесасплаву, рашчыстка сплаўных каналаў і рамонт шлязаў—на суму 40.000 рублёў.

*4) Па Гомельскім лесраёну.*

Рака Брагінка на суму 15.000 руб.

*5) Па Магілёўскім лесраёну.*

1. Асліца, 2. Друдзь—на суму 10.000 рублёў.

*6) Па Бабруйскім і Вузьдзянскім лесраёнах*—на суму 15.000 рублёў.

Усяго будзе выдаткавана на гэтыя работы 167.000 рублёў.

Акрамя гэтага будуць утворана ізысканьні работы па рэках: Проня, Басі, Сена, Острыца, Поня, Волча, Эсэ, Гаці' Ольсе, Сушы, Сушке і Несяце на суму 20.000 рублёў.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму БРК саюзу сельгаслесрабочых „аб ліквідацыі няпісьменнасьці сярод батрацтва і сельгаслесрабочых".

*Ад 29/V-1930 году*

Прэзыдыум БРК саюзу СГЛР адзначае, што ня гледзячы на некаторы пералом у справе ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сельгаслесрабочых і батрацтва за 1929-30 год (было абхоплена лікпунктамі 18.975 асоб, супроць 1.222 чал. у 1927/28 годзе), усё-ж становішча гэтай работы зьяўляецца зусім нездавальняючым.

Плянавае заданьне, узятае на сябе саюзам СГЛР і НКАсьветы, выканана толькі на 37.9%, што ставіць пад пагрозу своечасовасьць выкананьня дырэктыў партыі аб поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сельгаслесрабочых і батракоў, тым больш, што ў апошні час наглядаецца значнае паслабленьне ўвагі да працы па лікбезу, як з боку органаў НКАсьветы. гэтак і, у асаблівасьці, з боку нізовых ячэек саюзу СГЛР.

У мэтах дасягненьня рашучага пералому ў справе лікбезу сярод батрацтва і сельгаслесрабочых і зьнішченьня маючыхся ў гэтай справе недахопаў, Прэзыдыум БРК лічыць неабходным:

1) Культштабу праз адпаведныя сэктары, узгадніўшы пытаньне з НКА і ЦК ЛКСМБ, безадкладна прыступіць да праверкі і разгортваньня працы па лікбезу паставіўшы сабе абавязкавай задачай пагалоўнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сельгаслесрабочых і батрацтва ў 1930 годзе.

2) Тэрмінова завесьці дасканалы вучот няпісьменных па саюзу праз адпаведныя нізовыя ворганы саюзу, прыцягнуўшы да актыўнага ўдзелу ў гэтай рабоце камсамолскія арганізацыі, аб чым наладзіць пытаньне з ЦК ЛКСМБ.

Аднача́сова праверыць дасканалыя вынікі работы па лікбезу за мінулы навучальны год.

3) Асяродак цяжара ў працы па лікбезу на летні пэрыяд перанесьці на сэзонныя работы (сплаў, лесазагатоўкі і г. д.)

4) Па дагаворанасьці з адпаведнымі арганізацыямі лічыць неабходным абвясьціць месячнік па працы лікбезу, у працягу якога павінна быць праведзена ўся арганізацыйная работа па вучоту няпісьменных, падагульваньню вынікаў работы за мінулы навучальны год, арганізацыі лікпунктаў і прымацаваньня да іх няпісьменных.

Плян правядзеньня месячніку распрацаваць Культштабу. Тэрмін месячніку арыентыровачна ўстанавіць на ліпень месяц.

5) Рабачкомам вызначыць з свайго складу арганізатара лікбезу, на яго ўскласьці адказнасьць і абавязкі правядзеньня і кіраўніцтва ўсёй работай па лікбезу, сыстэматычна правераючы яго работу.

6) Рэдакцыі газэты "Сельгаслесрабочы Беларусі" забясьпечыць сыстэматычнае асвятленьне работы па лікбезу, у асаблівасьці ў час месячніку.

7) У час месячніку праз "Сельгаслесрабочы Беларусі" правесьці конкурс на лепшы і горшы лікпункт і лепшага і горшага арганізатара. Рабачкому саюзу ў рабоце па лікбезу, вызначыўшы для прэміраваньня фонд у суме 1000 руб. за кошт НКА і БРК СГЛР.

Парадак прэміраваньня і конкурсу распрацаваць Культштабу.

8) Паставіць пытаньне перад НКАсьветы і ЦП Працасьветы аб забесьпячэ-

ньні лікпунктаў адпаведным настаўніцкім пэрсаналам, падручнікамі, памяшканьнем і належным мэтадычным кіраўніцтвам.

9) Вакол справы ліквідацыі няпісьменнасьці шырока разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва. Культштабу ўстановіць сталае кіраўніцтва і забясьпечыць сыстэматычную праверку выкананьня узятых на сябе дагавораў.

10) Праз месяц заслухаць даклад аб выкананьні пастановы.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму БРК саюзу селгаслесрабочых, ад 11/VI-1930 году.

*Аб падрыхтоўцы да сельска-гаспадарчай выстаўкі.*

1) Канстатаваць, што ня гледзячы на вычэрпваючыя пастановы прэзыдыуму БРК СГЛР аб падрыхтоўцы да Ўсебеларускай сельска-гаспадарчай выстаўкі, ніякога зруху да апошняга часу ў гэтай рабоце не адчуваецца і падрыхтоўка на мясцох у БРК і ў гаспадарчых органах праходзіць габінэтным фармальным парадкам без неабходнага актыўнага ўдзелу шырокіх мас сельгаслесрабочых і батрацтва. Тэмпы падрыхтоўкі ганебна марудны і пагражаюць зрывам выкананьня адказьнейшых задач, пастаўленых перад гаспадарчымі і прафсаюзнымі арганізацыямі ў сувязі з арганізацыяй с.-г. выстаўкі.

2) Лічучы гэткае становішча зусім недапушчальным, яскрава падкрэсьліваючым безадказныя адносіны і недаацэнку значэньня з боку сэктараў БРК, гаспадарчых органаў і нізовых арганізацый. СГЛР важнейшага палітыка-гаспадарчага мерапрыемства, якім зьяўляецца с.-г. выстаўка,—паставіць перад сэктарамі БРК нізовай сеткай саюзу і гаспадарчымі органамі катэгарычную задачу безадкладнага пераключэньня ўвагі на падрыхтоўку да с/г выстаўкі, з бязумоўным забясьпечэньнем правядзеньня ў жыцьцё ўсіх прадугледжаных плянам і папярэднімі пастановамі мерапрыемстваў.

Работу правесьці ва ўдарным парадку з мабілізацыяй вакол яе шырокіх мас сельгаслесрабочых і батрацтва, тым болей, што тэрмін адчыненьня выстаўкі перанесены на месяц раней вызначанага тэрміну.

3) У дадатак да папярэдніх пастаноў Прэзыдыуму БРК СГЛР—прапанаваць:

а/ Усім нізовым арганізацыям СГЛР (рабачкомам, сельрабачкомам і г.д.) устанавіць 18/VI і 29/VI днямі праверкі і самаправеркі падрыхтоўкі да с.-г. выстаўкі. Праверку правесьці шляхам вызначэньня самаправерачнай брыгады і пастаноўкі на пасяджэньні рабачкому і агульным сходзе дакладаў: аб выніках самаправеркі, бліжэйшага сельвыстаўкому і кіраўніка прадпрыемства аб выніках падрыхтоўкі да выстаўкі і аб удзеле сельгаслесрабочых і батракоў у гэтай падрыхтоўцы. Сэктарам прасачыц за выкананьнем гэтага заданьня.

б) Кіраўнікам саўгаскіх аб'яднаньняў даць паказаньне па сваёй лініі аб праверцы падрыхтоўкі экспанатаў саўгасамі БССР.

в) тав. Жыв'цкаму (Арг. Інстр. сэктар) забясьпечыць экскурсантаў начлегамі (у колькасьці прадугледжанай разьвёрсткай ЦСПСБ па саюзу СГЛР), праверыць забясьпечэньне харчаваньнем, кіраўніцтвам пры аглядзе выстаўкі. Арганізаваць сустрэчу прабываючых экскурсантаў, іх разьмяшчэньне і провады да ад'езду.

г) Правесьці нараду гарадзкіх МК саюзу па пытаньні правядзеньня разьмяшчэньня экскурсантаў сярод сяброў саюзу і аб узаемаадносінах з экскурсантамі.

д) Забясьпечыць праз Выстаўком у павільёне працы і быту месца для „кутку працы і быту сельгаслесрабочых і батрацтва“.

е) т.т. Лашкевічу, Эльперыну і Вяжэвічу (вытворчыя сэктары) тэрміова праверыць падрыхтаванасьць гаспадарчых органаў і нізовых органаў СГЛР да с. г. выстаўкі (падрыхтоўка і адгрузка экспанатаў, папулярызацыя выстаўкі, дапамога калгасам і індывідуальным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам у падрыхтоўцы і адпраўцы экспанатаў, сувязь з сельвыстаўкомамі і г.д.),

ж) Ім-жа тэрмінова падрыхтаваць сумесна з гаспадарчымі ворганамі дыяграмы, фота-здымкі, плякаты, макеты, мадэлі і г.д., якія-б характэрызавалі жыцьцё і быт сельгаслесрабочых і батрацтва.

з) тав. Саковічу (Рэдакцыя газэты сельгаслесрабочы Беларусі") узмацніць сыстэматычнае асьвятленьне падрыхтоўкі да с/г выстаўкі, пад кутом погляду мабілізацыі навакол прарываў упадрыхтоўцы да выстаўкі шырокай грамадзкай думкі, вядучы рашучую барацьбу з наглядаючыміся фактамі бюракратызму, нядбайства і маруднасьці тэмпаў у падрыхтоўцы да выстаўкі, як з боку прафэсыянальных,гэтак і гаспадарчых арганізацый.

і) т. Бушко (секцыя Бюро Спецыялістых) забясьпечыць удзел спэцыялістых на мясцох у падрыхтоўцы да с/г выстаўкі (падрыхтоўка экспанатаў, кансультацыя, прапаганда, значэньня выстаўкі.

к) Скарыстаць пачаўшуюся перавыборчую кампанію нізовых ворганаў саюзу для шырокай папулярызацыі выстаўкі для дасягненьня самага рашучага пералому ў справе падрыхтоўкі да яе.

л) т. Башмачнікаву (Культштаб) забясьпечыць абслугоўваньне экскурсантаў с/г выстаўкі жывой газэтай саюзу "Трактар".

м) На чарговым пасяджэньні Прэзыдыуму заслухаць пэрсанальныя інфармацыі работнікаў БРК аб выкананьні гэтай пастановы.

## ПЛЯН

### Удзелу саюзу сельгаслесрабочых у падрыхтоўцы і правядзеньні уборачнай кампаніі ў саўгасах, дапамогі саўгасаў калгасам і індывідуальным бедняцка-серадняцкім гаспадаркам.

Набліжаючаяся уборачная кампанія набывае асабліва важнае палітычна-гаспадарчае значэньне і высоўвае перад усімі саўгаснікамі аб'яднаньнямі і нашым саюзам задачу чоткага, найбольш хуткага і разам з гэтым добраякаснага яе правядзеньня ў зьвязку з ростам пасеўных плошчаў, забясьпечаўшым значны ўзрост валавой і таварнай прадукцыі саўгасаў; у зьвязку з неабходнасьцю перакідкі і скарыстаньня гатунковага насеньня для сваячаснага вытвару севу азімых, перакідкі садавіны і гародніны і іншых спажывецкіх культур у гарады для снабжэньня прамысловых рабочых, а таксама забясьпечаньня прамысловых прадпрыемств сыравінай (бульба, лён).

Уборачная кампанія набывае выключна важнае палітычнае значэньне яшчэ і таму, што яна будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, калі кулачаства і ўсе антысавецкія элемэнты будуць усімі спосабамі імкнуцца актыўна шкодзіць пасьпяховай і сваячасовай уборцы ураджаю і тым самым зрываць сацыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі і выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады.

На саюз Сельгаслесрабочых, на кожнага сельгаслесрабочага і спэцыялістага ўскладаецца вялікая палітычная адказнасьць у справе сваячасовага правядзеньня уборачнай кампаніі ў саўгасах. Посьпех гэтай кампаніі залежыць ад таго, наколькі будзе арганізавана воля і энэргія рабочых мас саўгасаў і ўсей саўгаскай грамадзкасьці навакол уборачнай кампаніі.

Лепшай формай удзелу ўсей рабочай масы, якая забясьпечыць гэты посьпех, зьяўляецца сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Таму задачы:

Мабілізаваць саюзныя сілы найбольш шырокае разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў саўгасах.

Ніводнага саўгасу, які-б ня удзельнічаў у сацыялістычным спаборніцтве.

Ніводнага саўгасу без спаборнічаючых паміж сабой брыгад, груп і паасобных рабочых.

Ніводнага кваліфікаванага рабочага па-за ударным рухам.

Ніводнага саўгасу без ударніцтва.

За бальшавіцкім севам бальшавіцкі збор ураджаю.

*I. Плян падрыхтоўкі і збору ўраджаю ў рукі кожнага рабочага.*

Даклацна распрацаваныя пляны уборачнай кампаніі павінны быць:

а) падрабязна абгавораны на вытворчых, нарадах на агульных і групавых сходах рабочых.

б) даведзены да кожнае асобнае групы, брыгады рабочых да кожнага рабочага.

*II. Шырэй разгарнуць сацспаборніцтва і ўдарніцтва.*

Вытворчыя нарады павінны стаць арганізуючым і кіруючым штабам сацспаборніцтва і ўдарніцтва на найбольш пасьпяховае правядзеньне збору ўраджаю. Праз вытворчыя нарады у адпаведнасьці з пастановай III-га Пленуму ЦК саюзу разгарнуць кампанію па найбольшаму ўцягненьню рабочых мас у сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Пры гэтым асобную увагу ўдзяліць справе ўцягненьня ў сацспаборніцтва і ўдарніцтва сэзонных і часовых рабочых, і с/г спэцыялістых.

Арганізаваць у кожным саўгасе спэцыяльную дошку для асьвятленьня штодзенна вынікаў сацспаборніцтва і ўдарніцтва, а дзеля гэтага наладзіць вучот вытворчасьці працы так, каб гарантаваць штодзёнае асьвятленьне гэтай справы. Шырока асьвятляць ход сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў насьценгазэтах.

*III. Рабочая грамадзкасьць і прафактыў на праверку падрыхтаваннасьці саўгасаў да збору ўраджаю.*

Ва ўсіх установах, што ўдзельнічаюць ва ўборачнай кампаніі, ствараюцца ЧКК для праверкі іх падрыхтаваннасьці. да правядзеньня уборачнай кампаніі Увесь саюзны актыў з прыцягненьнем актыву іншых саюзаў мабілізуецца для правядзеньня на ўсіх саўгасах растлумачыцельнай кампаніі сярод рабочых саўгасаў аб значэньні уборачнай кампаніі і ролі у ей саўгаскіх рабочых, а таксама для дапамогі саўгасам у яе правядзеньні і папулярызацыі сарод рабочых мас, пляну уборкі. У кожным саўгасе павінны быць арганізаваны рабочыя брыгады па праверцы падрыхтаваннасьці самых саўгасаў да правядзеньня уборачнай кампаніі. Работа гэта павінна быць закончана да25-гачэрвеня. Справаздачна перавыбарчая кампанія рабачкомаў, якая зараз праходзіць павінна быць увязана з задачамі сваечасовай падрыхтоўкі да уборачнай кампаніі. У час самаправеркі работы рабачкомаў асобную увагу належыць зьвярнуць на выяўленьне становішча падрыхтоўкі да збору ўраджаю.

*IV. Забясьпечыць збор ураджаю рабсілай, падрыхтаваць кваліфікаваных рабочых.*

Дапамагчы у тым, каб кожны саўгас безадкладна склаў падрабязны плян патрэбнасьці у часовай рабсіле для збору ўраджаю, арганізаваў-бы пры дапамозе сельсаветаў і вярбоўшчыкаў НКП вярбоўку часовых рабочых. Каб не пазьней I/VIII былі заключаны дагавары з групамі і арцелямі часовых рабочых. Безадкладна наладзіць каротка-тэрміновую падрыхтоўку кваліфікаваных рабочых (для работы на снаповязалках, жніварках, малатарнях).

*V Усе работы па збору перавесьці на зьдзельшчыну.*

Усе без выключэньня работы па ўборцы павінны быць пераведзены на зьдзельшчыну, у тым ліку зьдзельна павінны аплачвацца і часовыя рабочыя. Дзеля гэтага да пачатку уборачнай кампаніі ў кожным саўгасе распрацаваць канкрэтныя нормы выпрацоўкі. На падставе норм выпрацоўкі устанавіць зьдзельныя расцэнкі. На вытворчых нарадах распрацаваць пытаньне аб прэміраваньні, устанавіўшы дакладны парадак прэміраваньня і разьмер прэміі па відам работ. Пасьля распрацоўкі гэтых пытаньняў правесьці растлумачыцельную кампанію сярод усіх рабочых саўгасаў аб значэньні прэміраваньня зьдзельшчыны для гаспадаркі. Нормы выпрацоўкі, зьдзельныя расцэнкі парадак расходваньня з прэміяльнага фонду і разьмер прэміі па асобным відам работ павінны быць вывешаны у мясцох згуртаваньня рабочых не пазьней чым за 2 тыдні да пачтку уборачнай кампаніі.

*VI. Узьняць працоўную дысцыпліну сярод рабочых.*

Правесьці неабходныя мерапрыемствы па узьняцьцю вытворчасьці працы і замацаваньню працоўнай дысцыпліны, вызначыць і праводзіць рашучую барацьбу супроць выпадкаў разгільдзяйства, нядбайных адносін і шкод-

ніцтва. Дзеля гэтага не пазьней 25 чэрвеня арганізаваць самаправерку выкананьня абавязкаў, якія узяты на сябе рабочымі па калектыўнаму дагавору ў выглядзе узьняцьця вытворчасьці працы на 30% і зьніжэньня сабекошту на 15%. Выявіць усе ненармальнасьці гэтай справы і прыняць рашучыя захады да іх адхіленьня у час уборачнай кампаніі і да поўнага выкананьня вызначаных паказчыкаў. У справе працдысцыпліны асобную увагу зьвярнуць на выкананьне правіл на супроць пажарным мерапрыемствам.

*VII. Саўгасы павінны дапамагчы калгасам.*

Разам з іншымі прафсаюзамі, рабочым камітэтам і інструктарам арганізаваць ударныя брыгады з кваліфікаваных прамысловых рабочых для рамонту сельска-гаспдарчых машын для саўгасаў і калгасаў. Рамонтныя сельска-гаспадарчыя майстэрні і рабочыя павінны быць найбольш поўна скарыстаны для рамонту уборачнага інвэнтару акаляючых калгасаў і індывідуальных бедняцка-серадняцкіх гаспадарак. Усе зборачныя машыны і цягавая сіла, якія аслабаняюцца ад сваіх работ, тэрмінова павінны перакідвацца для практычнай дапамогі ў уборцы ураджаю бліжэйшых калгасаў і індывідуальных бедняцкіх гаспадарак. БРК прапануе усім рабачкомам арганізаваць шырокае азнаямленьне калгаснікаў, разасланнай Белкалгасцэнтрам прыкладнай рабочай праграмай уборачнай кампаніі ў калгасах.

*VIII. Палепшыць бытавыя ўмовы рабочых калгасаў.*

Безадкладна ліквідаваць запазычнасьць па зарплаце сталым і падзённым рабочым у саўгасах. Не дапускаць перабояў у выплаце заработку ў час уборачнай кампаніі. Прыняць захады да забясьпечаньня жыльлём сэзонных і часовых рабочых, наладзіць нагляд над забясьпечаньнем саўгасаў спэцвопраткай і выдачай яе рабочым. Дабіцца ад мясцовых ворганаў спажывецкай каапэрацыі поўнага выкананьня ўскладзеных на яе абавязкаў па забясьпечаньні рабочых саўгасаў прадуктамі харчаваньня і прамтаварамі, а таксама па арганізацыі грамадзкага харчаваньня. Забясьпечыць месца работ бакамі з гатаванай вадой. Патрабаваць ад ворганаў аховы здароў'я лепшага мэдабслугоўваньня рабочых саўгасаў (арганізацыя мэдпунктаў, забясьпечаньне лекарствамі, выезды дактароў і фэльчароў). Наладзіць работу ясьляў і дзецпляцовак у адпаведнасьці з вызначанымі плянамі.

*IX. Арганізаваць па баявому работу па ўборцы ўраджаю*

Дабіцца, каб уборачныя машыны работалі ня менш, як дзьве зьмены, а трактары ня менш 20 гадзін, давая згоду ў неабходных выпадках на падаўжэньне рабочага дню звыш нармальнага з адпаведным павялічэньнем зарплаты. Дабіцца сваячасовага падвозу да месц вытвару работ па уборцы неабходных матар'ялаў (гаручае, тара, шпагат і запасныя часткі), каб зьбегнуць лішніх прастояў.

*X. Разгарнуць культурна-масавую і палітыка-выхаваўчую работу.*

У час уборачнай кампаніі шырока разгарнуць культурна-масавую і палітычна-выхаваўчую работу, ахапіўшы ёй усю масу рабочых, у тым ліку і часовых. Рабачкомам не пазьней 25/VI распрацаваць дакладныя пляны разгортваньня і правядзеньня гэтай работы, кіруючысь ранейшымі дырэктывамі БРК.

*XI. Брыгады ў саўгасы для дапамогі.*

Для аказаньня практычнай дапамогі саўгасам ў сваячасовай падрыхтоўцы і правядзеньні ўборкі, малацьбы, а таксама адгрузкі насеньня, гародніны і інш., у найбольш буйныя саўгасы, БРК саюзу накіроўвае 10 брыгад па 3 чалавекі (работнік саюзу, аграном і рабочы ўдарнік). У брыгады павінны быць прыцягнуты члены іншых саюзаў і прамысловыя рабочыя. Увесь інструктарскі склад саюзу ў час падрыхтоўкі збору ўраджаю абавязан асноўную ўвагу ўдзяліць справе дапамогі саўгасам.

*XII. Спэцыялістых на уборачную кампанію.*

Для аказаньня арганізацыйнай і вытворчай дапамогі саўгасам і калгасам у правядзеньні уборачнай кампаніі 50%

аграномаў, якія работаюць у гарадох, павінны накіроўвацца ў саўгасы і калгасы на такіх-жа ўмовах, як і ў час пасеўнай кампаніі.

*XIII. Інфармаваць БРК саюзу аб ходзе уборачнай кампаніі*

Кожны рабачком і кожная брыгада, пасланая для дапамогі саўгасам, павінны праз кожны дзён прысылаць у БРК зводкі аб ходзе уборачнай кампаніі з паказаньнем %% выкананьня пляну уборкі.

Старшыня БРК Саюзу сельгаслесрабочых **Манжалей.**

Заг. саўгаскага сэктару **Лашкевіч.**

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму БРК саюзу сельгаслесрабочых аб непарыўнай рабоце ў саўгасах.

Побач з замацаваньем бесьперапынкі ў саўгасах за апошні час выяўлена шэраг выпадкаў, калі асобныя саўгасы, якія з пачатку перайшлі на бесьперапынную работу, у час вясеньняга севу зьвярнуліся зноў да сяміднеўкі (імя Леніна і Зарэчча, Мен. акр., Турск і Ціхінічы, Бабр, акр. і інш.) Расцэньваючы такія выпадкі, як факты буйнага палітычна-эканамічнага прарыву. Прэзыдыум БРК саюзу адзначае, што асноўнымі прычынамі, выклікаўшымі гэты зварот да сяміднеўкі зьяўляюцца:

1) Поўнае незразуменьне адміністрацыяй, рабачкомамі і парт"ячэйкамі гэтых саўгасаў палітычна - эканамічнага значэньня бесьперапынкі, пры чым аднаўляюць сяміднеўку тыя саўгасы, дзе перавод быў праведзены казённа, без належнага замацаваньня бесьперапынкі, дзе значэньне бесьперапынкі рабочым дакладна не растлумачана, дзе масавая культвыхаваўчая работа, у зьвязку з бесьперапынкай, патрэбным чынам ня ўзмоцнена і не наладжана.

2) Адсутнасьць работы па замацаваньні бесьперапынкі пасьля пераходу да яе і асабліва поўная адсутнасьць масавай палітвыхаваўчай работы сярод падзёньнікаў і наогул адсутнасьць мерапрыемств па арганізаваным скарыстаньні падзёньнікаў (Усе надзеі на самацёк, не вялося ніякай работы па арганізацыі бядняцкай, камсамольскай і маладзёжнай часткі падзёньнікаў), у выніку ня выхад падзёньнікаў на работу ў нядзелю, як асноўны вывад да звароту на сяміднёўку.

3) Неўкамплектаванасьць саўгсаў патрэбнай колькасьцю сталых і сэзонных рабочых, адсутнасьць патрэбнага пералому ў справе шырокай замены падзёншчыны працай сталых і сэзонных рабочых і нават рост прымяненьня падзёншчыны.

Прэзыдыум асабліва падкрэсьлівае недапушчальнасьць таго, што ні рабачкомы, ні парт'ячэйкі саўгасаў ніяк не сыгналізавалі аб зрыве бесьперапынкі, ня прымалі ніякіх мер да недапушчэньня гэтага зрыву.

Прызыдыум БРК пастанаўляе:

1) Прапанаваць рабачкомам і адміністрацыі саўгасаў, якія замест перапынкі ўстанавілі зноў сяміднеўку, безадкладна прыняць меры да аднаўленьня бесьперапынкі, забясьпечыўшы рашучую і хуткую ліквідацыю прычын, выклікаўшых гэты пераход. Забясьпечыць сапраўды шырокае разгортваньне масавае работы ў зьвязку з гэтым пераходам (шырокае абгаварэньне, папулярызацыя на сходах, правядзеньне шэрагу гутарак, асьвятленьне ў насьценгазэце і г. д.)

2) Пры правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі рабачкомаў саўгасаў, якія аднавілі сяміднеўку, асаблівую ўвагу зьвярнуць на праверку таго наколькі склад гэтых рабачкомаў здольна праводзіць тыя задачы, што ускладаюцца на прафсаюзныя арганізацыі ў справе сацбудаўніцтва. Пры далейшым аднаўленьні выпадкаў звароту да сяміднеўкі, ў адносіне да рабачкомаў і кіраўнікоў гэтых саўгасаў, прымяніць самыя жорсткія меры (роспуск і зьняцьце з працы).

3) Абавязаць работнікаў БРК, інструктароў і брыгадзіраў у час правядзеня справаздачна-перавыбарчай кампаніі рабачкомаў саўгасу, арганізаваць шырокую праверку становішча і вынікаў пераходу на бесьперапынку. Саўгаскаму

сэктару ў 2-х дзённы тэрмін даць дадатковыя паказньні аб парадку гэтай праверкі.

У першай палове ліпеня заслухаць на Прызыдыуме пытаньне аб становішчы і выніках бесьрапынкі ў саўгасах і аб выкананьні гэтай пастановы.

4) Рабачкомам саўгасаў аднэй з галоўнейшых задач паствіць шырокае разгортваньне масавай палітыка-выхаваўчай работы сярод падзёньнікаў і сэзоньнікаў. Культштабу сумесна з саўгаскім сэктарам на працягу дэкады распрацаваць і даць на месцы практычныя паказаньні пра разгортваньне масавай палітвыхаваўчай работы сярод падзёньнікаў. Пры распрацоўцы гэтых мерапрыемств прадугледзіць шырокае прыцягненьне да гэтай работы палітасьветнай сеткі і ЛКСМБ.

5) Саўгаскім аб'яднаньням і саўгаскаму сэктару вызначыць і паставіць на абгаварэньне Прызыдыуму (праз адну дэкаду) шэраг рашучых мер па найбольшай замене працы падзеньнікаў працай сталых і сэзонных рабочых. Асобную ўвагу пры гэтым удзяліць справе жылбудаўніцтва і грамадзкага харчаваньня.

6) Адзначаючы зусім слабае асьвятленьне пытаньня бесперапынкі на старонках „Сельгасрабочы Беларусі“ і наогул друку, абавязаць рэдакцыю „Сельгасрабочы Беларусі“ забяспечыць шырокае асьвятленьне на старонках газэты задачь і становішча бесьперапынкі ў саўгасах.

Саўгаскаму сэктару прыняць загады да наладжваньня асьвяткаваньня гэтай справы на старонках цэнтральны і акруговых газэт.

7) Зьвярнуцца да АВК, каб ян ыўзмацнілі нагляд за становішчам выкананьня саўгасамі дырэктыў ураду і партыі прапераход на бесьперапынку, ў прыватнасьці шляхам даручэньня інсруктарскаму апарату АВК утвараць праверку ў саўгасах і заслухоўваньня дакладаў.

8) Таксама прасіць АК КП(б)Б (у адпаведным лісьце) забясьпечыць узмацненьне парткіраўніцтва справай бесперапынкі ў саўгасах з боку РК і парт'вчэек, і ў прыватнасьці, аб выяўленьні становішча парткіраўніцтва з боку ячэек тых саўгасаў, што аднавілі сяміднеўку

## Усім рабачкомам лясьніцтв.

Лясная гаспадарка БССР зараз знаходзіцца па шляху караной рэарганізацыі. Замест існуючых дробных лясьніцтв будуць арганізаваны буйныя лясныя гаспадаркі *(леспрамгасы)*, якія будуць выконваць працу па аднаўленьні догляду за лесам і лесараспрацоўкамі на базе мэханізацыі. У гэтых леспрамгасах будзе працаваць сталы кадр рабочых. Дзеля таго, каб пытаньням рэарганізацыі ляснoй гаспадаркі занялася ўся маса работнікаў і спэцыялістых у лясьніцтвах, неабходна рабачкомам зараз жа прыступіць да шырокага абгаварэньня гэтага пытаньня на вытворчых нарадах і агульных сходах у напрамку ўстанаўленьня колькасьці учлесхозаў і леспрамгасаў, падбор кадраў і г. д., працягваючы для абгаварэньня ўсіх спэцыялістых, працуючых як у лясьніцтвах, так і на леснарыхтоўчых вучастках. Адначасова прыходзіцца канстатаваць, што частка лясных работнікаў, чакаючы вырашэньня гэтага пытаньня, зусім запусьцілі работу па выкананьню асноўных заданьняў па лясніцтвам, асабліва па лесаупарадкаўчым і па падсочцы. Такія дэмабілізаваныя настрoі вельмі шкодна адзывюцца на рабоце Чаму БРК саюзу прапануе ўсім рабачкомам лясьніцтваў мабілізаваць увагу ўсіх рабочых і спэцыялістых лясьніцтв на поўнае выкананьне заданьняў па лесаупарадкаўчым работам і па падсочцы. Праз сапраўднае разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва, як паміж асноўных работнікаў лясьніцтв (лясьнікоў, аб'ездчыкаў і г. д.), таксама паміж сэзонных рабочых і спэцыялістых, працуючых на лесаупарадкаўчых работах і па падсочцы.

У гэтым годзе значная колькасьць рабочых сэзоньнікаў працуюць на лесаупарадкаваньні і іншых лясных работах. Ад правідловай арганізацыі работы і растаноўкі рабочай сілы залежыць пасьпяховае выкананьне вытворчых плянаў, на што неабходна рабачкомам зьвярнуць асаблівую ўвагу і дабіцца сапраўднага зьніжэньня сябекаштоўнасьці і падвышэньня вытворчасьці працы, для чаго, неабходна давесьці плян кожнай работы

падсочка, лесаупарадкаваньне) да кожнага рабочага і арцелі, з тым каб кожны ведаў сваё плянавае заданьне.

Пытаньнем забясьпечаньня сэзонных рабочых і спэцыялістаў, работаючых на гэтых работах, рабачкомы займаюцца вельмі мала, дзякуючы чаму маецца шэраг вападкаў дрэнага забясьпечаньня з боку каапэрацыйных органаў гэтых груп прадуктамі харчаваньня, выніку чаго мы маем у некаторых мейсцох (Глівінскае Л-ва) прарывы на гэтых работах. Прапануецца рабочым камітэтам, катэгарычна дабіцца ў адпаведных каапэрацыйных органах аб поўным забясьпечаньні гэтых груп рабочых прадуктамі харчаваньня.

Культпрацу сярод гэтых груп рабочых патрэбна накіраць у напрамку шырокага азнаямленьня з пяцігодкай, пастановай XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду ВКП, для чаго павысіць распаўсюджваньне газэт паміж работнікаў лясьніцтв і сэзонных рабочых, наладзіць рэгулярны выпуск насьценнай газэты, шырокае разгортваньне самакрытыкі, сапраўднае скарыстаньне радыё. На старонках газэты „Сельска-Гаспадарчы Рабочы Беларусі“ асьвятляйце становішча работы ў лясьніцтвах і ходу выкананьня заданьняў па лесакультурам, лесааднаўленьні і падсочцы.

Заг. Лессэктару БРК СГЛР (**Эльперын**).

## Усім акруговым і раённым інструктарам.

### аб дапамозе нізовым ячэйкам у вядзеньні грашовых спраў.

На гэтым вучастку працы амаль што зусім не адчуваецца дапамога з боку інструктараў. З шэрагу актаў рэв. камісій відаць, што ў шмат рабачкомах не рацыянальна скарыстоўваюцца саюзныя грошы, што адсутнічае вучот членаў саюзу і членскіх узносаў, што рабачком не адлічваецца перад членамі саюзу па грашовай частцы, што рэв. камісіі лічацца толькі на паперы і ніякой рэвізіі, не утвараюць, што вылучаныя рабочыя ў якасьці старшынь рабачкомаў не трымоўваюць належнага кіраўніцтва і паказаньня, як весьці грашовую справу.

Як вынік з гэтага — касавыя кнігі не вядуцца, дакумэнты не афармляюцца, членскія ўзносы бяруцца бяз марак і на гэтай глебе ёсьць выпадкі растрат саюзных грошай.

БРК з свайго боку вылучыла стамае бюро пры сталых Усебеларускіх прафкурсах, якое займаецца прафсаюзным грашовым пытаньнем. Гэтае бюро мае мэтай ўвесьці ў курс справы ўсіх райінструктараў, каб апошнія змаглі-б правідлова інструктаваць прафсаюзныя ячэйкі.

Як правіла, за непарадкі па грашовай частцы ў рабачкомах адказвае і рэв. камісія, якая не рэвізавала своечасова, але ад гэтай адказнасьці ніўякім разе не аслабанены і інструктары. Ад апошніх БРК управе і будзе патрабаваць поўнай адказнасьці ў гэтай галіне працы, а таму неабходна ведаць кожнаму райінструктару, што ён павінен:

1) Цікавіцца каштарысам рабачкому і прасачыць, каб грошы былі скарыстаны рацыянальна і згодна каштарысу.

2) Наглядаць, каб грошы захоўваліся на бягучым рахунку ў адпаведных дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацыях.

3) Забясьпечыць рэгулярную працу рэв. камісіі накіраваньне актаў у БРК.

4) Праверыць ці сваечасова рабачкомы адсылаюць Фінсправаздачы і каштарысы ў БРК.

5) Інструктаваць, як браць членскія ўзносы, вучот іх, сваячасавая перасылка, наклейка марак і г. д.

6) Дапамагчы рабачкому вытрабаваць ад установы ўсе належачыя % налічэньні.

7) Дапамагчы у вядзеньні касавай кнігі, вучоту марак, вучоту культмаемасьці, бібліатэкі і інш.

У сувязі з рэарганізацыяй саюзнай сеткі, трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на новыя прафячэйкі-райпрафком і райсельрабачком. Трэба дапамагчы наладзіць грашовы вучот у нашых праформанах.

БРК прапануе інструктарам, якія няпеўна разьбіраюцца ў вядзеньні грашо-

вай справы, зьвяртацца да бюро, якое ацкажа на ўсе запытаньні. адрас бюро: (Менск глаўпошта скрынка 121 Бюро па прафсаюзнай грашовай справаздачнасьці.

Арг. сэктар БРК саюзу **Жывіцкі.**

## Усім рабачкомам саўгасаў.

31/V г. г. па саўгасам Белсельтрэсту, Сьвінтрэсту, Насентрэсту і Льнопенькоаб'яднаньню аслабаненыя старшыні рабачкомаў аплачваюцца не за кошт гаспадаркі, а за рахунак каштарысу рабачкому.

У сувязі з гэтым рабачкомам саўгасаў прапануецца перакласьці свае каштарысы з I/V да I/I 31 г. і накіраваць у БРК саюзу на зацьверджаньне.

Прыходная частка павінна быць улічана поўнасьцю. Трэба пэўна падлічыць суму зарплаты штату сэзонных, часовых і падзённых рабочых. Таксама трэба ўлічыць і ўзысківаць процантныя налічэньні з усіх сум зарплаты, што выплачваюцца гаспадаркамі за ўсялякія будаўнічыя работы. Трэба ўлічыць павялічэньне зарплаты рабочым, пашырэньне саўгасаў і павялічэньне колькасьці рабочых. Гэткім чынам даходная частка павінна бязумоўна павялічыцца.

У расходнай частцы неабходна захаваць наступную прапорцыю:

1) Усяго па колдагавору належыць рабачкому 3% на зарплату. З гэтых 3% палова ідзе на ўтрыманьне рабачкому, а палова на культпрацу.

2) Ні ў якім разе нельга пабудаваць каштарыс з такім разьлікам, каб культ.сродкі пайшлі на ўтрыманьне рабачкому.

3) З сум на ўтрыманьне рабачкому павінна пайсьці ня звыш 85% на зарплату і сацстрахаваньне, астатнія 15% павінны ісьці на канцэлярскія і паштовыя расходы, на прафкіраўнічую літэратуру, на камандыроўкі, на нарады, зьезды і інш. Сумы, якія прызначаны на культпрацу недатыкальны і павінны скарыстоўвацца выключна на культпатрэбы.

4) Месячная аплата аслабаненаму рэботніку рабачкому ўстанаўліваецца з разьліку стаўкі старшага рабочага ў разьмерах ад 50 р. да 70 р. у месяц. У па асобных буйных саўгасах (як саўгас „10 ці годзьдзя БССР“) стаўка можа быць вызначана пэрсанальна і ў кожным выпадку разглядаецца па асобна БРК саюзу. Калі ня хопіць сродкаў у рабачкому на поўнае ўтрыманьне аслабаненага працаўніка, апошні ўтрымліваецца за кошт каштарысу рабачкому за два, тры ці чатыры дні ў тыдзень, ці адпаведнай колькасьцю дзён на месяц. Астатнія дні працоўнік рабачкому павінен работаць у гаспадарцы. Работу па гаспадарцы кіраўнік павінен забясьпечыць, аб чым апошняму будзе асобнае ўказаньне БРК і Трэстам.

У саўгасах, якія аб'ядноўваюць дапаможныя гаспадаркі і ў якіх маюцца вучастковыя рабачкомы, ці прафупаўнаважаныя, каштарыс складаецца агульнасаўгаскім рабачкомам, ён атрымоўвае і ўсе сродкі.

У перасклад зеных каштарысаў трэба адзначыць астатак, які будзе на дзень перакладаньня каштарысаў. У зьвязку з тым, што ў БРК адсутнічае фонд датацыі, на водпуск сродкаў з БРК пры складаньні каштарысу нельга разьлічваць.

Каштарыс павінен быць прысланы ў БРК на зацьверджаньне к 10/VII-г. г.

Арг. сэктар БРК **Жывіцкі.**

## Усім нізавым прафячэйкам н/саюзу.

Напамінаецца аб неабходнасьці прысылкі у БРК саюзу сельгаслесрабочых 3 р., як гадавая падпіска на бюлетэнь БРК на 1930 г. і 5р. на загатоўку розных кніг і бляінкаў для рабачкому як-та: новыя касавыя кнігі, прыбытковыя і выдатковыя ардэра, ведамасьці па збору членскіх узносаў, фінсправаздачы, каштарысы, членскія білеты і інш.

Тым рабачкомам, якія сваячасова прышлюць гэтыя грошы, усе матар'ялы будуць ім пасланы па іх запатрэбаваньнях

ню ў першаю чаргу. І бясплатна, а не наложаным пляцежом, які ударажае кошт пасылкі і рабачкому прыходзіцца пераплачваць лішнія грошы за розныя матар'ялы.

Грашовая частка БРК саюзу СГЛР
**Гарохаў.**

## Усім рабочкомам саюзу сельгаслесрабочых.

У сувязі з пастулаючымі запытаньнямі з мейсц па сутнасьці абслугоўваньня рабочых—будаўнікоў у саўгасах і калгасах, БРК саюзу сельгаслесрабочых растлумачвае, што згодна абежніку ВЦСПС ад 14 IV 29г. № 137 (зьмешчаны нага ў газ. „Труд„ 15/VI 29 г. № 135) усе сезонныя рабочыя, якія заняты на будаўнічых працах у саўгасах не звышэй 100 чал. павінны абслугоўвацца саюзам сельгаслесрабочых.

Будаўнікі занятыя на работах у калгасах у не залежнасьці ад колькасьці абслугоўваюцца саюзам сельгаслесрабочых.

Прапануецца усім саюзным ворганам, дзе маюцца яшчэ не прынятыя да абслугоўваньня рабочыя—будаўнікі ў саўгасах і калгасах у тэрміновым парадку выканаць гэту працу.

Заг. Арг. апэр. сэктарам БРК
саюзу сельгаслесрабочых **Жывіцкі.**

**Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.**

Адказны рэдактар **Манжалей.**
Намесьнікі яго: **Лашкевіч, Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 2374. Тыраж 1000 экз. Друкарня Менспраўдому.

